**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№ 19 (735) 8 траўня 2014 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае

## Са святам вялікай Перамогі!



Фота Ул. Скрабатуна

Пастаўскі раён

# Найвялікшае багацце – дзеці

■ Кастусь Александровіч

**Пасля капітальнай рэканструкцыі да Дня беларускага пісьменства Палац культуры ў Паставах стаў сучасным і вельмі ўтульным, глядацкая зала на паўтысячу месц рэгулярна прымае розныя мерапрыемствы.** Менавіта тут днямі адбыўся паўфінал абласнога агляду-конкурсу “Лепшая шматдзетная сям’я Віцебшчыны-2014”. Права ўдзельнічаць у ім заваявалі сем дружных і шчаслівых сем’яў, якіх прызналі лепшымі на папярэдніх раённых адпаведных шоу. Перад пачаткам конкурснай праграмы журы і гледачы пазнаёміліся з выставай у фае “Нашы ручкі залатыя”. З гэтым дамашнім заданнем найлепш справілася сям’я Алы і Алега Байчукоў і іх трое сыноў з Мёрскага раёна, якія ўдала прадставілі сябе, маляўніча афармілі і расказалі пра свае захапленні, здольнасці. Наступны этап аказаўся яшчэ больш цікавым і жывым, калі праводзіўся конкурс “Радавод”. На сцэне найбольш сімпатый і апладысментаў за лепшую сцэнічную падрыхтоўку дасталося сям’і з Докшыц Аксане і Валерыю Мандрукоў, якіх удала падтрымалі дачка і двое малых сыноў. Асаблівай цеплынёй і шчырасцю вызначаўся і наступны творчы конкурс-дамашняе заданне “Мая краіна – мая сям’я”, дзе лепшай прызналі вясковую сям’ю з саўгаса “Лявошына” Верхнядзвінскага раёна Раісы і Эдуарда Курылёнкаў, а таксама іх трох дзяцей школьнікаў. Па ўмовах конкурсу ў фінал абласнога конкурсу, які пройдзе ў Віцебску ў пятніцу 23 мая, меркавалася адабраць трох лепшых удзельнікаў па суме набраных балаў. Аднак журы вырашыла, што ў абласны цэнтр паедуць чатыры сям’і Алехна з Відзаў, што на Браслаўшчыне, Врублеўскіх з Пастаў, Карніловічаў з Глыбоцкага раёна і Нікапчукоў, якія прадстаўляюць горад Наваполацк.

Глыбоцкі раён

# Без школы вёска згіне

■ Чэслаў Якубовіч

**Нягледзячы на ўсе намаганні дзяржавы, дэмаграфічная сітуацыя ў сельскай мясцовасці працягвае заставацца трывожнай.**

Гэты працэс закрануў і адзін з самых буйных у вобласці Глыбоцкі раён. Вось ужо 10 гадоў тут, як і ў іншых рэгіёнах Прыдзвіння, знікаюць па гэтай прычыне ўстановы сацыяльнай сферы, а найбольш балючым для вяскоўцаў становіцца закрыццё малакаплектных школ. Крыўдна, што пры гэтым мясцовая сістэма адукацыі – вельмі высокага ўзроўню і нядаўна двое глыбоцкіх настаўніц сталі пераможцамі абласнога этапа рэспубліканскага конкурсу прафесійнага майстэрства “Настаўнік года-2014”. Сёлета таксама адораныя вучні краю прывезлі дамоў 5 дыпломаў, з іх 4 пераможцаў рэспубліканскіх прадметных алімпіяд. Аднак шмат дзе вучыць ужо няма каго і ўслед за першай закрытай Стрынадскай пачатковай школай перасталі гучаць затым дзіцячыя галасы ў класах у вёсках Лучай, Востраў, Капыльшчына, Парэчча, Бортнікі, Перадолы, Завулкі, Задарожжа і нават у Масеры. У гэтым годзе аб’яўлена, што балючы працэс пад назвай “аптымізацыя” закране на Глыбоччыне яшчэ дзве школы. Летам спыніць сваю дзейнасць Верхнянская школа, пабудаваная паўстагоддзя назад. Вырашана, што 28 мясцовых дзяцей адсюль будуць вазіць школьным аўтобусам у Шунеўскую школу, звольненым настаўнікам прапануюць працу ў іншых месцах. Другая Станульская школа пакуль захаваецца, але яна стане толькі пачатковай. У сваю чаргу раён павінен набыць яшчэ два новыя школьныя аўтобусы, прадоўжыць абнаўленне дзеючых школ камп’ютарнай тэхнікай.

Браслаўскі раён

# Надоўга ў ізаляцыю

■ Станіслаў Раманчук

**Быццам пустазелле апошнім часам у глыбінцы распладзілася шмат сапраўдных трутняў, якія працаваць не хочуць і толькі п’юць, крадуць, крыўдзяць старых і нямоглых.**

Вось і ў Браслаўскім раёне пасярод працоўнага тыдня сабраліся разам “пагудзець” чацвёра такіх лайдакоў. У іх былі грошы на “чарніла”, аднак небагата, а хацелася прадоўжыць пірушку. І тады самаму “разумнейшаму” з квартэта прыйшла ў галаву думка адняць грошы “чэсным” спосабам. Мужчыны зайшлі ў дом да вясковага пенсіянера і прадставіліся нібыта супрацоўнікамі Дзяржпажарнагляду. Яны нават праверку захавання правілаў супрацьпажаранай бяспекі ўстроілі і запатрабавалі заплаціць штраф у суме 50 тысяч рублёў за адсутнасць у хаце пажарнага апавяшчальніка. Пажылы мужчына разгадаў афёру, але ад бяды большай аддаў патрабуемыя грошы і закрыў дзверы перад няпрошанымі гасцямі. Гэта гісторыя мела далейшы працяг, бо выпітага кампаніі аказалася мала і яны зноў прыйшлі ў знаёмую хату. На гэты раз “лжэ-інспектары” на добрым падпітку ўжо не хавалі сваіх злачынных мэтаў. Яны сталі жорстка збіваць вяскоўца і нанеслі яму цяжкія траўмы, патрабуючы грошы. Чацвёрка зламыснікаў перагрэсла ўсю хату, забрала падчас вобыску-шмона ўсе прыхаваныя на чорны дзень сродкі. Але для такіх рабаўнікоў працяг гісторыі аказаўся вельмі сумным. Злачынцаў потым знайшлі і затрымалі. Адбыўся суд, які вынес заслужаны прыгавор: за свае ўчынкі чацвёрку надоўга адправілі за краты, дзе яны правядуць ад 6 да 11 гадоў.

Надвор'е ў Глыбокім www. rp5ru

| | Чацвер 08.05.14 | | | | Пятніца 09.05.14 | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 |
| Хмарнасць | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | |
| Тэмпература | +12 | +13 | +14 | +12 | +9 | +12 | +20 | +16 |
| Ціск | 745 | 745 | 746 | 746 | 747 | 748 | 747 | 745 |
| Вільготнасць | 62 | 79 | 86 | 84 | 86 | 97 | 51 | 62 |
| Вецер м/сек | 6 Ю | 6 Ю | 3 Ю-З | 4 Ю-З | 4 Ю-З | 5 Ю | 4 Ю-З | 6 Ю |

| | Субота 10.05.14 | | | | Нядзеля 11.05.14 | | | | Пн.12.05.14 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +14 | +16 | +20 | +14 | +11 | +11 | +17 | +15 | +13 | +13 | +15 |
| Ціск | 744 | 744 | 742 | 740 | 739 | 740 | 740 | 739 | 738 | 738 | 737 |
| Вільготнасць | 71 | 82 | 61 | 82 | 88 | 82 | 50 | 49 | 82 | 100 | 93 |
| Вецер м/сек | 5 Ю-З | 5 Ю-З | 3 Ю | 3 Ю-З | 5 З | 4 З | 3 Ю-З | 5 Ю | 5 Ю | 4 Ю-В | 2 Ю |

# Аб самым надзённым

## ПЕРАД ЗАПЛАНАВАНАЙ ДЭНАМІНАЦЫЯЙ НАЦБАНК БЕЛАРУСІ ЎВЁЎ ЗАБАРОНУ НА ВЫДАЧУ КРЭДЫТАЎ БЕЗ ДАВЕДАК АБ ДАХОДАХ




■ Аляксандр Цішкевіч

**Апошнім часам і насельніцтва пачало актыўней закупляць замежную валюту. Людзі думаюць, што рэзкае аслабленне нацвалюты і аслабленне беларускага рубля адбудзецца неўзабаве пасля заканчэння ў Мінску чэмпіянату свету па хакеі.**

Цяпер складваецца ўражанне, што мала хто ў нашай краіне ведае аб тым, калі нарэшце айчынная эканоміка пачне працаваць устойліва і наступіць так патрэбная ўсім рэальная стабільнасць. Час бяжыць хутка і ў наступным годзе восенню пройдуць чарговыя прэзідэнцкія выбары. У нядаўнім Пасланні Прэзідэнта беларускаму народу і Нацыянальнаму сходу аб гэтым прама не гаварылася, але пэўная трывога за развіццё далейшых падзей усё ж прысутнічала.

Прагучала з вуснаў беларускага даўняга лідара і шэраг іншых прынцыповых і неардынарных заяў. У прыватнасці, раней у нас не казалі, што закончыўся перыяд постсавецкага развіцця і наступае новая невядомая эпоха. Адзінае, што беларусы адчулі наколькі гэта камфортна і спакойна жыць у сапраўды незалежнай дзяржаве. Асабліва калі адносіны бліжэйшых нашых суседзяў і важнейшых гандлёвых партнёраў Украіны з Расіяй балансуюць на мяжы вайны, а інфармацыйная, эканамічная і дыпламатычная барацьба паміж імі толькі ўзрастае. Аб гэтым гаварылася днямі ў беларускай сталіцы на саміце, на якім вырашаўся лёс будучага Еўразійскага саюза.

Добра, што напярэдадні гэтай сустрэчы нам удалося дамовіцца з рускімі аб імпарце з тэрыторыі РФ сёлета патрэбных 23 млн. тон нафты. Праўда, прэм’еры трох дзяржаў гэтай садружнасці на красавіцкай сустрэчы ў Маскве так і не змаглі дамовіцца аб адмене балючых для беларусаў нафтавых пошлін. Пазіцыя А. Лукашэнкі была цалкам апраўданая, бо не можа быць на агульнай эканамічнай прасторы пэўных абмежаванняў у руху тавараў, капіталу і працоўнай сілы. У Беларусі два сучасныя нафтаперапрацоўчыя заводы і ад іх працы залежыць напаўненне дзяржказны.. Нам для вытворчасці тавараў таксама прыходзіцца купляць не за рублі за мяжой неабходную сыравіну і энерганосьбіты.

Апошнім часам і насельніцтва пачало актыўней закупляць замежную валюту. Людзі думаюць, што рэзкае аслабленне нацвалюты і аслабленне беларускага рубля адбудзецца неўзабаве пасля заканчэння ў Мінску чэмпіянату свету па хакеі. На фоне ўжо прайшоўшай дэвальвацыі рубля РФ і казахскага тэнге, кіраўніцтва краіны спрабуе супакоіць народ, што такія апасенні беспадстаўныя, а дэвальвацыя рубля будзе праходзіць і далей паступова. А ўслед за гэтым у нас могуць правесці дэнамінацыю, людзі атрымаюць новыя прыгожыя грошы з высокай ступенню абароны.

Пакуль гэта адбудзецца, у фінансавай сферы краіны правялі шэраг істотных змен. Па-першае, Нацыянальны банк Беларусі забараніў іншым камерцыйным банкаўскім установам прадастаўляць сваім кліентам спажывецкія крэдыты без даведак аб даходах. Людзі з малымі даходамі, а такіх у нас нямала, ужо не могуць разлічваць на крэдытную падтрымку. Незаконная стала ў краіне і дзейнасць розных іншых фінансавых арганізацый, якія стваралі грашовыя піраміды. Таксама перамены закранулі і страхавыя арганізацыі краіны.

На свет Божы з’явіўся доўгачаканы Указ аб увядзенні двух новых відаў абавязковага страхавання. На гэты рынак допусцілі і страхавыя арганізацыі з замежнымі інвестыцыямі. Яны атрымалі права заключаць дагаворы добраахвотнага страхавання жыцця з беларускімі грамадзянамі. Тым часам сталі вядомы вынікі дзейнасці народнагаспадарчага комплексу Беларусі ў 1-м квартале 2014 года.. На жаль, яны не радуюць, бо па-ранейшым на складах шмат непрададзенай беларускай прадукцыі, на якую няма попыт. І зусім невыпадкова, што прамысловая вытворчасць сёлета ў студзені-сакавіку склала толькі 96,4 %т да адпаведнага перыяду 2013 года..

Горш таго ў ранейшай нашай гордасці – айчынным машынабудаванні назіраецца сапраўдны абвал. Напрыклад, такі прамысловы гігант, як “Гомсельмаш”, цэлы год адпрацаваў фактычна ўхаластую. Падобны малюнак і на шэрагу іншых вядомых і буйных прадпрыемствах.. Там атрымалі дазвол на скарачэнне празмернай колькасці штатных работнікаў. Аднак у нас не прынята банкроціць яўных аўтсайдараў вытворчасці. Па аналогіі з беларускімі калгасамі дрэнна працуючыя заводы будуць далучаць да яшчэ рэнтабельных прадпрыемстваў.

У сярэдзіне вясны кожнае трэцяе прадпрыемства гэтай галіны было стратным. Але яшчэ горшы малюнак у айчыннай сельскай гаспадарцы, дзе другі год запар назіраецца спад вытворчасці. Сёлета зімой вытворчасць мяса і малака знізілася амаль на 2 %. Да іншых бед аднясём і тое, што пад пагрозай правалу сёлета і план жыллёвага будаўніцтва з дзяржпадтрымкай аб’ёмам 2,5 млн. кв. метраў. Адзінае, што прынесла пэўны аптымізм – гэта ажыўленне на рынку калійных угнаенняў і прадоўжыўся рост зарплат. У такіх умовах адзіны будзе выхад пачаць беларусам жыць па сродках, якіх болей не становіцца.

## Дзень за днём

**Беларусь дамовілася з Расіяй аб імпарце сёлета 23 млн. тон нафты. Сітуацыя ў айчыннай сельскай гаспадарцы стала значна горшай, чым у прамысловасці. З пачатку года беларускі экспарт у Расію скараціўся яшчэ на 7,6 %. Колькасць беларусаў з капіталам 1 млн. USD вырасла да 20 тысяч чалавек. Чацвёрты год запар Беларусь першая па росту цэн на прасторах былога СССР. З 1 мая абмежавалі імпарт піва, падаражэлі асобныя віды цыгарэт. А. Лукашэнка даручыў ураду правесці карэкціроўку нацыянальнай сістэмы адукацыі. Амністыя да 70-годдзя вызвалення РБ ад гітлераўскіх захопнікаў закране амаль 14 тысяч чалавек, на волю могуць выпусціць 2730 з іх.**

# Важнейшыя навіны свету

**ЗША.** Дзяржсакратар Джон Керры вельмі рэзка абвінаваціў Расію ў фінансаванні і падтрымцы ўзброеных ёй да зубоў сепаратыстаў на ўсходзе Украіны, эскалацыі страху.

**Францыя.** У прамой трансляцыі на 13 мовах па ўсім свеце на тэлеканале Euronews прайшлі ўпершыню ў гісторыі тэледэбаты кандыдатаў на пасаду старшыні Еўрапейскай камісіі.

**Сірыя.** На фоне ўзмацнення вельмі жорсткіх баёў у краіне разгортваюцца выбары прэзідэнта, прызначаныя на 17 ліпеня, канкурэнтаў у дыктатара Б. Асада пакуль няма.

**Украіна.** Віцэ-прэзідэнт Джо Байдэн заявіў, што яго краіна ніколі не прызнае акупацыю Крыма Расіяй, будзе ўсяляк падтрымліваць змены ва Украіне і дапамагаць украінцам.

**Расія.** Пасля мяса і малака супрацоўнікі Расельгаснагляду забракавалі яшчэ ўкраінскую бульбу, а таксама польскую садавіну і агародніну, 50 % харчавання РФ купляе за мяжой.

**Балівія.** Прэзідэнт Эва Маралес падпісаў закон, які дазваляе ваенным збіваць над тэрыторыяй краіны самалёты, які выкарыстоўваюць злачынцы для перавозкі наркотыкаў.

**Турцыя.** Прэм'ер-міністр Рэджэп Эрдаган прынёс афіцыйныя прабачэнні сотням тысяч армян, забітых турэцкімі салдатамі падчас масавай дэпартацыі і генацыду ў 1915 годзе.

**Расія.** Дрэнны імідж РФ у свеце яшчэ болей пагоршыў медаль "За вяртанне Крыма", на якой адчаканілі дату пачатку спецыяльнай сакрэтнай ваеннай аперацыі – 20 лютага.

**ЗША.** Кампанія Motorola выпусціла новы кампактны і танны смартфон з экранам 4,3 дзюймы, навінка паступіла спачатку на рынкі Бразіліі, потым пойдзе па свеце пры попыце.

**Швейцарыя.** Ювелірная кампанія Shawish стварыла першы ў свеце ўнікальны пярсцёнак з гіганцкага брыльянта вагой 150 карат, яго кошт дасягнуў 70 мільёнаў долараў.

**Расія.** Вядомы мастак-карыкатурыст А. Більжо запытаўся ў Пуціна, што ён будзе рабіць, калі Калінінград на рэферэндуме захоча далучыцца да Германіі, а Курылы – да Японіі?

**Кітай.** Для хмарачоса-фінансавага цэнтра CTF горада Гуанчжоу японская кампанія Hitachi пабудуе самы хуткі ў свеце ліфт, на 95 паверх ён даедзе за 43 секунды.

**Казахстан.** Папулярная спявачка, заслужаная артыстка РБ А. Агурбаш прызналася, што зноў выходзіць замуж за мясцовага бізнесмена Анатоля Пабіяха пасля цяжкага разводу.

**Швецыя.** Адразу 14 вядучых хакеістаў зборнай краіны адмовіліся па розных прычынах удзельнічаць у чэмпіянаце свету ў Мінску з-за яго невысокай рэпутацыі пасля Алімпіяды.

**ЗША.** Жыхар горада Мілтан са штата Фларыда з берага са гадзіну барацьбы выцягнуў гіганцкую акулу вагой 365 кілаграмаў, яе мясам ён накарміў дзве сотні сваіх суседзяў.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Аб'яўленая летась праграма мадэрнізацыі, як заявіў эканамічны эксперт С. Чалы, правалілася, не выкананы і абяцанні даць народу да 2015 года 1000 долараў заробку.

**Васілевічы.** Горад стаў адным з самых дэпрэсіўных у краіне, тут закрыліся 15 заводаў і арганізацый, колькасць насельніцтва з 1992 года скарацілася на трэць да 8 тысяч.

**Магілёў.** Абласны суд прызнаў вінаватымі 5 кіраўнікоў Гомельскага гарвыканкама за быццам махінацыі з кватэрамі, ніхто з фігурантаў справы сваёй віны не прызнаў.

**Мінск.** Са 104 пунктаў праграмы сумесных дзеянняў урада і Нацбанка Беларусі па павышэнні канкурэнтаздольнасці айчыннай эканомікі ўдалося выканаць толькі 38.

**Бяроза.** Мясцовы мясакамбінат увайшоў у лік толькі 6 з 20 прадпрыемстваў, якія працуюць без страт, астатнія працуюць хранічна дрэнна, асабліва ў Барысаве, Слуцку.

**Слуцк.** Спецыялісты Дзяржкантролю выявілі на мясцовым льнозаводзе два катлаваны, у якіх вясной закапалі 76 тон загубленай трасты па загадзе потым звольненага дырэктара.

**Ганцавічы.** Супраць намесніка старшыні райвыканкама Следчы камітэт распачаў крымінальную справу за злоўжыванне ўладай пры будаўніцтве летась уласнага дома.

**Мінск.** Яшчэ летась зімой, нагадаў экс-глава Нацбанка С. Багданкевіч, курс долара быў 8570 рублёў, цяпер стаў 10 тысяч, рэальна дэвальвацыя нацвалюты дасягнула ўжо амаль 12 %.

**Гомель.** Падчас спецаперацыі "Павуціна" супрацоўнікі ДАІ за адны выхадныя затрымалі ў абласным цэнтры 71 вадзіцеля за язду на падпітку, склалі больш 2 тысяч пратаколаў.

**Брэст.** Міліцыя затрымала дырэктара кукурузакалібровачнага завода за атрыманне хабару 48 тысяч еўра за абяцанне купіць абсталяванне ў адпаведнай кампаніі з Германіі.

**Кобрын.** У стане комы трапіў у Маскве ў НДІ імя Скліфасоўскага 25-гадовы жыхар горада, якога раніў з траўматычнага пісталета ў вагоне метро ноччу малады чачэнец.

**Мінск.** Мы павінны ведаць родную беларускую мову, заявіў звяртаючыся да пасла Расіі А. Лукашэнка, каб застацца нацыяй, а пакуль занадта асцярожна яе падтрымлівалі.

**Ліда.** На 7 грамадскіх актывістаў склалі пратаколы за ўдзел у несанкцыянаваным мітынгу без слоў пад бел-чырвона-белымі сцягамі на мясцовых могілках і запальванне свечак.

**Гомель.** У гандлёвым цэнтры "Сакрэт" заняў увесь 3 паверх самы буйны ў Беларусі супермаркет спартыўных тавараў і інвентару гандлёвай плошчай 1700 кв. метраў.

**Мінск.** Да канца 2018 года вырашана пабудаваць нацыянальны футбольны стадыён на 33 тысячы месц на перакрыжаванні Партызанскага праспекта з вуліцай Ванеева.

# Гэтым летам дзевяцікласнікі змогуць паступаць у сярэднія спецыяльныя навучальныя ўстановы Беларусі без экзаменаў



■ БЕЛТА

**Гэтым летам дзевяцікласнікі змогуць паступаць у сярэднія спецыяльныя навучальныя ўстановы Беларусі без экзаменаў. Аб гэтым расказаў сёння на прэс - канферэнцыі ў Мінску міністр адукацыі Сяргей Маскевіч, перадае карэспандэнт БЕЛТА .**

«Вядома ж, у ССНУ , як і ВНУ ёсць спецыяльнасці, якія больш запатрабаваныя ў абітурыентаў, чым іншыя. Таму ўведзена абмежаванне - абітурыенты, якія паступаюць для атрымання сярэдняй спецыяльнай адукацыі на аснове агульнай базавай адукацыі на спецыяльнасці, на якія конкурс у пэўнай форме атрымання адукацыі ў год, папярэдні год складаў 5 і больш чалавек на месца, паступаюць пры наяўнасці ў пасведчанні аб агульнай базавай адукацыі адзнак не ніжэй за 4 (чатырох) балаў па рускай мове, беларускай мове і вучэбным прадмеце, які адпавядае профільнаму іспыту», - сказаў міністр.

Усяго ў гэтым годзе плануецца прыняць ва ўстановы сярэдняй спецыяльнай адукацыі каля 44 тыс. чалавек. Прычым на дзённую форму - больш за 33 тыс., якія навучаюцца, на завочную - больш за 10 тыс. У тым ліку за кошт бюджэтных сродкаў - больш за 25 тыс. чалавек.

Тэрміны прыёму дакументаў у ССНУ - на аснове агульнай базавай адукацыі за кошт бюджэту і на платнай аснове (з 15 па 31 ліпеня), на аснове агульнай сярэдняй адукацыі, прафесійна - тэхнічнай адукацыі з агульнай сярэдняй адукацыяй за кошт сродкаў бюджэту і на платнай аснове на ўсе формы атрымання адукацыі ( з 15 ліпеня па 6 жніўня), на ўсе формы атрымання адукацыі на платнай аснове, якія вытрымалі ўступныя выпрабаванні ( на 14 жніўня, на спецыяльнасці сельскай гаспадаркі і воднага транспарту (у вячэрняй і завочнай форме ) - з 1 кастрычніка па 30 лістапада.

Тэрміны правядзення ўступных выпрабаванняў: на аснове агульнай базавай адукацыі за кошт сродкаў бюджэту і на платнай аснове - з 1 па 5 жніўня, на аснове агульнай сярэдняй адукацыі, прафесійна - тэхнічнай адукацыі з агульнай сярэдняй адукацыяй за кошт сродкаў бюджэту і на платнай аснове - з 7 па 9 жніўня, па спецыяльнасцях сельскай гаспадаркі і воднага транспарту за кошт сродкаў бюджэту і на платнай аснове - з 1 па 5 снежня.

Тэрміны залічэння абітурыентаў: на аснове агульнай базавай адукацыі за кошт сродкаў бюджэту - па 8 жніўня, на аснове агульнай сярэдняй адукацыі, прафесійна - тэхнічнай адукацыі з агульнай сярэдняй адукацыяй за кошт сродкаў бюджэту - па 12 жніўня, на аснове агульнай базавай адукацыі, агульнай сярэдняй адукацыі, прафесійна - тэхнічнай адукацыі з агульнай сярэдняй адукацыяй на платнай аснове - па 16 жніўня, на спецыяльнасці сельскай гаспадаркі і воднага транспарту - па 10 снежня.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** Вобласць стала "лідарам" у Беларусі па няплацяжах у Фонд сацыяльнай абароны насельніцтва, пратэрмінавая запазычанасць адных калгасаў дасягнула амаль 300 мільярдаў рублёў.

**Новалукомль.** На новым энергаблоку мясцовай ГРЭС пачаліся пусканаладачныя работы, яго запуск на поўную магутнасць можа забяспечыць электраэнергіяй 10 раёнаў вобласці.

**Орша.** На ўзбраенне арміі Украіны прынялі верталёты Мі-8МСБ вытворчасці мясцовага авіярамонтнага завода сумесна з украінскім АТ "Матор Січ", сёлета выпуск 20 машын.

**Мёры.** Міліцыя выявіла групу з 6 жыхароў горада, якія па заніжаных цэнах скупілі 800 кароў і бычкоў у гаспадарках раёна, рэзалі жывёлу, а мяса перапрадавалі ў Расію.

**Браслаў.** Толькі пасля званка ў газету "СБ. Беларусь сегодня" выплацілі дзіцячыя дапамогі сем'ям у ААТ "Бярозавы край", у раёне праблемы ў калгасах з выплатамі ўжо паўгода.

**Віцебск.** Прэзідэнт РБ абурыўся, што дагэтуль з Беларусі не выкінулі мясцовага актывіста прарасійскага руху Герашчанку, да іх трэба падыходзіць як да дыверсантаў.

**Полацк.** Мясцовы пагранічны атрад атрымаў новую хуткасную маторную лодку на 6 чалавек для аховы воднага ўчастку дзяржаўных граніц з Латвіяй і Літвой.

**Лёзна.** Суд у Віцебску пакараў 7 гадамі турмы жыхара вёскі Крынкі, які п'яны летась напрыканцы снежня збіў насмерць на трамвайным прыпынку 7-гадовага хлопчыка.

**Паставы.** На свабодных плошчах завода радыёкампанентаў "Беліт" пашырыўся папулярны рынак "Гарызонт", устанавілі яшчэ 87 ралетаў, кафэ і пункт абмену валют.

**Гарадок.** Да прадстаячага фестывалю-кірмашу "Дажынкі" падрыхтавалі серыю керамічных лялек "Гарадоцкія прыгажуні" калекцыю пано, посуду з гербам горада, эмблемай свята.

**Віцебск.** Польскі інстытут у Мінску пацвердзіў, што ў чэрвені ў абласной філармоніі адбудзецца канцэрт аднаго з лепшых польскіх музычных калектываў VOLOSI.

**Чашнікі.** Райсавет ветэранаў сумесна з аўтаклубам РДК пачалі акцыю "Дарога да ветэрана" адведаць дома кожнага з 63 удзельнікаў вайны, падзякаваць ім за Перамогу.

**Наваполацк.** На ААТ "Нафтан" пабывала Герой Беларусі, трохразовая алімпійская чэмпіёнка Дар'я Домрачава і падзякавала заводу за дапамогу пры падрыхтоўцы да гульняў

**Гарадок.** У раённай бальніцы памёр ад атрыманых траўм 50-гадовы беспрацоўны, які разбіраў прыватны цагляны будынак і патрапіў пад сцяну вышынёй 4 метры, якая абрушылася.

**Віцебск.** Падчас "Славянскага базару" на Алеі зорак сёлета вырашылі закласці 10-ю імянную пліту ў гонар латвійскага кампазітара, дырыжора і піяніста Раймунда Паўлса.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

# Сустрэча мужчын у Росіцы

Мужчынская пілігрымка, якая ўжо стала традыцыйнай, адбылася 1 траўня ў Росіцы, што ў Верхнядзвінскім раёне.

■ Зміцер Лупач

Гэта пілігрымка прысвячаецца святому Юзафу-працаўніку, нябеснаму заступніку рамеснікаў, дзень памяці якога адзначаецца 1 траўня. У гэтым годзе яна была не такой шматлікай, як у мінулыя гады, тым не менш, яна адбылася. У ёй удзельнічалі пілігрымы з Глыбокага, Жодзіна, Барысава, Шаркоўшчыны, Верхнядзвінска, Бігосава.

Мерапрыемства пачалося са святой Імшы, якую адправілі ксяндзы Чэслаў Курэчка, Міхал Цвічкоўскі і Андрэй Сідаровіч. Перад Імшой прысутныя праспявалі Літанію да святога Юзафа. Пасля набажэнства адбылася канферэнцыя, прысвечаная ролі мужчыны ў сучаснай сям'і. Яе правёў ксёндз-марыянін Міхал Цвічкоўскі.

Спачатку ён нагадаў прысутным пра асобу святога Юзафа, апекуна Езуса Хрыста. Айцец Міхал растлумачыў, чаму ён мусіць быць прыкладам для кожнага мужчыны. Святар адзначыў такія якасці святога як служэнне Богу, прыманне Яго волі, мужнасць, клопат пра сваю сям'ю. Вядучы канферэнцыі прапанаваў прысутным паразважаць над роляй бацькі ў сям'і і заклікаў мужчын быць адказнымі ў выхаванні дзяцей, даючы ім прыклад уласным жыццём.

Асаблівую ўвагу святар удзяліў адносінам паміж мужам і жонкай. Ён прывёў несуцяшальную статыстыку, што тычыцца разводаў. У каталіцкай Польшчы на 300 шлюбаў прыходзіцца каля 40 разводаў, што лічыцца вельмі трывожнай лічбай. У нас жа, у Беларусі, у некаторых месцах гэта лічба дасягае 100 разводаў на сто шлюбаў. "Тут няма слоў," – рэзюмаваў святар.

Шмат разводаў адбываецца па прычыне таго, што мужчына не ўдзяляе належнай увагі жонцы, не знаходзіць часу, каб элементарна яе выслухаць, зразумець яе эмацыйны стан. Айцец Міхал заклікаў прысутных знайсці хаця б пятнаццаць хвілін у дзень, якія б яны маглі ўдзяліць сваім жонкам.

Яшчэ адна з прычын разводаў – п'янства і наркаманія, якая што раз больш распаўсюджваецца ў нашым грамадстве. А гэта ўсё ад недахопу веры, ад эгаізму, калі чалавек нікога не бачыць навокал, апроч сябе.

Асаблівую ўвагу мужчынам трэба звярнуць на выхаванне сваіх сыноў. Яны павінны прывіваць ім такія мужчынскія якасці як мужнасць, упартасць (у межах разумнага, вядома), адказнасць за сваю сям'ю і краіну. Бо ў нас часта як атрымліваецца? Пасля разводу дзяцей звычайна пакідаюць з маці. Першыя тры гады хлопчык звычайна праводзіць з маці, бо яна знаходзіцца ў дэкрэтным адпачынку. Потым ён ідзе ў дзіцячы садок, дзе выхавацелькі – жанчыны. Пасля садка ён ідзе ў школу, дзе большасць педагогаў таксама жанчыны. І толькі ўвечары хлопчык бачыць дома бацьку, які звычайна стомлены прыходзіць з працы. І то гэта ў поўных сем'ях. А калі маці выхоўвае сына адна, або бацька п'е? А бывае ж яшчэ горш, калі абодва бацькі п'юць...

І вось такі хлопчык, калі трапляе ў войска або іншае асяроддзе, дзе няма маці, аказваецца цалкам не падрыхтаваным да жыцця.

Звярнуў ўвагу айцец Міхал таксама на асаблівасці жаночай і мужчынскай псіхалогіі, на рознае ўспрыманне імі адных і тых жа падзей. У мужчыны больш развіта логіка, таму ён добра ўсё плануе. Жанчына, дзякуючы больш развітай інтуіцыі, добра ўсё прадчувае. Усе гэтыя асаблівасці павінны мацаваць сем'і, а не выступаць фактарам раз'яднання, варожасці.

Напрыканцы канферэнцыі святар адзначыў, што святы Юзаф можа лічыцца і апекуном прадпрымальнікаў, бо ён быў рамеснікам, сталяром. А купіць дрэва ў тагачаснай Палестыне, якое там каштавала дорага, мог далёка не бедны чалавек. У той жа час ён павінен яго апрацаваць і прадаць з яго вырабы, каб пракарміць сваю сям'ю.

Пасля канферэнцыі адбыўся абед на свежым паветры, каля кастра, дзе прысутныя ў больш свабоднай абстаноўцы маглі абмеркаваць згаданыя вышэй тэмы. Вялікую ўдзячнасць пілігрымы выказалі мясцовым жанчынам, якія прыгатавалі для іх такі смачны абед.

Перад тым, як раз'ехацца, пілігрымы дапамаглі айцу Чэславу дастаць з падвала клубні кветак юргіній, якія ў хуткім часе будуць высаджаныя каля касцёла і на месцы, дзе ў 1943 годзе разам са святарамі былі спаленыя жыхары Росіцы.

Нагадаем, у лютым 1943 года ў Росіцы падчас карнай аперацыі "Зімовы цуд", якую праводзілі латышскія батальёны СС пад кіраўніцтвам нямецкіх акупантаў, у агні былі спаленыя 1528 жыхароў Росіцы. Сярод іх былі два святары – Юры Кашыра і Антоні Ляшчэвіч – якія мелі магчымасці ўратавацца, але засталіся разам са сваімі вернікамі. У 1999 годзе папа Ян Павел II прызнаў іх блаславёнымі.

Дарэчы, жаночая пілігрымка ў Росіцу адбудзецца ў гэту суботу, 10 траўня. Айцец Чэслаў запрашае ўсіх жадаючых! Росіца чакае!

## У айца Чэслава з Росіцы – юбілей

**У ксяндза Чэслава Курэчкі, які з'яўляецца пробашчам касцёла ў Росіцы, 2 траўня споўнілася 15 гадоў святарства.**

З гэтай нагоды глыбоцкія вернікі разам з ксяндзом Вячаславам Пялінкам суботнім вечарам выправіліся ў адмысловую пілігрымку ў Росіцу, каб асабіста павіншаваць айца Чэслава. Трэба адзначыць, што святар быў прыемна здзіўлены, бо не чакаў гасцей з Глыбокага.

Пасля цёплых слоў, якія вернікі выказалі айцу Чэславу, у іх гонар была адслужана святая Імша ў росіцкім касцёле. Пасля Імшы ксёндз-юбіляр запрасіў гасцей на каву.

Айцец Чэслаў Курэчка нарадзіўся ў 1960 годзе на Браслаўшчыне. Пасля сканчэння ў 1989 годзе Рыжскай духоўнай семінарыі пачаў душпастырскую дзейнасць. Святарскае пасвячэнне атрымаў 2 траўня 1999 года. З 2007 года з'яўляецца пробашчам парафіі Святой Тройцы ў Росіцы. Айцец Чэслаў мае неверагодны талент духоўна ўзмацняць людзей, а таксама ствараць прыгажосць вакол сябе.

Святар прыкладае вялікія намаганні для таго, каб святыня і ўсё навокал добра выглядала. Дзякуючы яму былі створаны Алея Памяці і Алея благаслаўлёных Антонія Ляшчэвіча і Юрыя Кашыры. Каля касцёла добраўпарадкаваныя вадаёмы, з густам высаджаны кветкі.

Па выніках мінулага года ксёндз Чэслаў Курэчка прызнаны "Чалавекам года Віцебшчыны".

*Зміцер Лупач*

## Святарскія пасвячэнні ў Браслаunion

**У Браслаўскім касцёле 3 траўня з рук біскупа Алега Буткевіча два дыяканы з Віцебскай дыяцэзіі Ян Кароткін і Аляксандр Фядотаў атрымалі святарскія пасвячэнні.**

Ян Кароткін апошнім часам працаваў дыяканам у Глыбокім, таму для глыбоцкіх вернікаў гэта падзея стала асаблівай. На ўрачыстасці прысутнічала шмат святароў, а таксама вернікаў як з Браслава, так і з іншых месцаў Віцебшчыны. Сярод высокіх гасцей прысутнічалі айцец Артур Самэцкі і ксёндз Робэрт Птак з Польшчы, прысутнічаў таксама рэктар Пінскай семінарыі ксёндз Ян Саламон.

Са словам да новых святароў і вернікаў звярнуўся біскуп Віцебскай дыяцэзіі Алег Буткевіч. Біскуп заклікаў маладых святароў памятаць, што яны пакліканы служыць Богу і людзям, павінны ўваскрашаць людскія душы. Ён даў параду, як не размінуцца з пакліканнем: "Шукайце Езуса! Шукайце Яго шляхоў у сучасным свеце!". Асобую падзяку біскуп скіраваў да бацькоў святароў.

Дарэчы, у гэту нядзелю, 11 траўня, у глыбоцкім касцёле ў 12 гадзін адбудзецца першая Імша ксяндза Яна.

*Зміцер Лупач*

**Гэтыя два вершы пра вайну даслаў наш чытач з Паставаў Люцыян Пятровіч Каранеўскі. Прапануем іх Вашай увазе.**

### Была вайна

Была вайна, гарэлі хаты,
Дзе йшлі нямецкія салдаты,
Ліліся слёзы, нібы град,
Палілі вёскі ўсе падрад!
Вось падышлі да адной хаты
Немаладыя два салдаты.
Насустрач выйшаў гаспадар
Адзеты бедна, сумны твар.
«Чаго стаіш? Хапай хутчэй,
Што даражэй і што лягчэй!
Пакуль мы будзем тут курыць,
Ратуй, бо хутка ўсё згарыць».
Дзед сустракаў бяду не раз.
Пайшоўшы ў хату, зняў абраз,
На грушу ён яго павесіў
І галаву сівую звесіў.
«Паліце, я ўсё забраў, -
Так беларус стары казаў.-
Прывык я Богу толькі верыць,
А ўсё, што даў, няхай заберыць».
Прыціхшы, немцы назіралі,
А дакурыўшы, моўчкі ўсталі,
Не зачапіўшы гэтай хаты
Пайшлі далей паліць салдаты.
За нас Бог хоча заступіцца,
Бо ён вады жывой – крыніца,
Але той першы крок адзіны
Мы да яго зрабіць павінны!

*Люцыян Каранеўскі, г. Паставы*

### Когда начинается война?

История грозит нам повтореньем,
Но не ее, а наша в том вина,
Когда нацизм становится ученьем,
Тогда и начинается война.
Что нам страдания чужие, кровь и слёзы,
Когда под мирным небом родились.
Не замерзали мы в трескучие морозы
И в рукопашную до смерти не дрались.
Друзей, родных своих не хоронили,
Которые хотели просто жить,
И со слезами не клялись на их могиле
За всех погибших поимённо отомстить.
Порою молодёжь еще считает,
Что жизнь военная романтики полна,
Пусть лучше мемуары изучают,
Быть может, приоткроется война
Суровой правдой, болью и страданьем
Безвременно от нас ушедших душ,
И бесконечно долгим ожиданьем,
Когда ж отец з войны вернётся, сын и муж.

*Люциан Короневский, г. Поставы*

# “Пабываў...”, каб вызваліць ад фашысцкага палону

*“Колькі сцежак зямных,*
*Колькі стужак дарог за табою!..*
*Ты не славы хацеў,*
*Ты змагаўся з жахлівай бядою…”*

***Маша Новікава***



**Марыя Баравік,**
сябра СБП,
*г.п. Падсвілле.*

## Водаль ад урачыстасці

Пра ветэранаў вайны з нашага мястэчка ў свой час было шмат звестак у раённай газеце (яшчэ “Шлях перамогі”, калі і я працавала ў рэдакцыі). Гэтыя людзі пры жыцці самі расказвалі пра сябе, удзельнічалі ў майскім свяце Перамогі – выступалі на трыбуне, ля брацкай магілы ля помніка. Падумала, што пра аднаго з іх – Івана Антонавіча Новікава -- нідзе не пісалася. Здаецца, не бачыла яго і пры тым гурце. Ён спакойна адносіўся да ўрачыстасцяў, не імкнуўся засвечваццa на святах, “рапартаваць” пра подзвігі натоўпу з музыкай і шарамі весялкі. Не атрымлівалася. Па-сумленні, па нейкаму, толькі яму аднаму зразумеламу, пачуццю. Бо сапраўды, пабываўшы ў пекле пад Сталінградам, пра ўражанне ў яго, на мой погляд, не знаходзілася адпаведных слоў.

У Дзень Перамогі ён выходзіў з дому (на Лясным завулку), спыняўся між універмагам і скверам на тратуары. Глядзеў, слухаў. Проста стаяў водаль урачыстай мітусні. А вось узнагароды?... Згодна песні “Фронтовики, наденьте ордена!”?.. Не памятаю, ці былі надзетыя. Напэўна! Ёсць здымачак, дзе Іван Антонавіч з крохай-унукам (можа двухгадовым?), дык медалі ў Ромы … на грудзях. А дзед трымае ў руцэ фужэр з-пад піва.

Баявыя ўзнагароды Івана Антонавіча – гэта медалі: “За адвагу”, “За абарону Сталінграда”, “За Перамогу над фашысцкай Германіяй” і ордэн Чырвонай Зоркі.

У Чырвонаармейскую кніжку ўпісаны ўдзячнасці: за разгром гітлераўскай арміі на подступах да Сталінграда, за выдатныя баявыя дзеянні і ліквідацыю ворага пад Сталінградам, за фарсіраванне ракі Паўночны Данец, вызваленне Харкава, Бердзічава, Чарнаўцоў, за разгром у прыдгор’ях Карпат, за выхад на паўднёва-заходнюю дзяржаўную мяжу з Румыніяй і авалоданне горадам Серэт, за пераадоленне Карпат, за авалоданне на тэрыторыі Чэхаславакіі Ужгарадам і наступнымі чатырма гарадамі. Апошні – Левоча. Ваяваў на франтах: Данскі, Сталінградскі, Сцяпны, 1-ы Украінскі і Чацвёрты Украінскі.

Іван Антонавіч прызываўся на вайну Даманавіцкім райваенкаматам Палескай вобласці 6-ліпеня 1941 года. Паўтара года быў справаводам 282 Упраўлення ваенна-стралковых работ. А ўжо ў снежні 1942-га--камандзірам кулямётнага аддзялення 7-га стралковага палка 24-ай стралковай дывізіі. І аж да канца вайны.

А нарадзіўся ў вёсцы Любіж Горацкага раёна Магілёўскай вобласці, у Ефрасінні і Антона. Бацька Антон быў, кажуць, дыяканам. Іван вучыўся геадэзіі на факультэце землеўпарадкавання Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі. Сёння гэтаму факультэту 175 гадоў. Таму па адукаванасці ў час вайны Антонавіч адразу спатрэбіўся як пісар.

Шкада, што мы маладыя на той час, калі жылі бацькі, не былі дапытлівымі. Не ўнікалі ў гісторыю ваеннага шляху і Антонавіча. Больш ведаў пра яго сын Сяргей. Але няма Сяргея. Людміла (дачка) згадвае: “Папа както не любил рассказывать о войне. Письма с фронта писал тёте Оле (сестре). Не был женат. Но уже имел возраст – 37 лет. Папа был сильно впечатлён жутью войны под Сталинградом. Но говорил, что сам не получал серьёзных ранений. Царапинами называл ранения. В плечо, например. И его спас под конец войны орден Красной Звезды. Пуля тюкнула в звёздочку”.

Цяпер, разважаючы з Людмілай, прыходзім да высновы, што сталы франтавы ўзрост даваў яму падставу назіраць, здагадвацца, думаць ужо тады, на фронце, аналізаваць стан ваеннай падрыхтоўкі, усіх спантаных дзеянняў, імклівасці, часцей вялікіх армейскіх страт. І прыходзіла бездапаможнае разуменне гэтай трагічнай з’явы, дзе прыказы насілі маланкавы характар. Была разгубленасць у франтавых дзеяннях. Таму трымалі абарону масай жывой сілы. Пад Сталінградам не перадаць словамі ўражанне, той жах ад знішчэння жыццяў. Гэта помніў франтавік.

--Прывезлі кашу на поле бою, - казаў Іван Антонавіч, - а сесці няма дзе. Як ні сядзь, разумееш, што сядзіш не на палене, а на ўмёрзлым целе. Жах!..

Пасля вайны Іван выпісваў кніжкі па гісторыі Вялікай Айчыннай. Чытаў і ўсё стараўся разабрацца, чаму так часам бездарна, неашчаджальна, з такімі стратамі рухаліся да Перамогі. А кніжкі той пары, шматтомнікі не ўтрымлівалі ўсёй праўды пра вялікую апошнюю вайну.





**На здымках:** Іван Антонавіч і яго ўзнагароды.

## Палявая пошта 16450

### *Цярністы шлях*

Людміла кажа: “Тётя Оля прислала когда-то несколько папиных писем с фотографиями, которые пришли с фронта. Я Лере (внучке) отдала некоторые… и награды. Она уже десять баллов получила в школе за военную тему”.

А перада мной лісты Івана Антонавіча пары 44-га года, калі ўжо наступіў пералом у вайне. У першым (25-га студзеня) ён растрывожаны пытаннем: “Прыкідваю, канкрэтна не ведаю, ці вызвалена Буда-Кашалёва… Мне хочацца знаць, жывыя вы ці ўжо вас няма.”. І далей піша, што ў падрабязнасці не будзе ўдавацца, бо не ведае, ці дойдзе пісьмо.

Разважа лагічная і спакойная. Але ёсць такі сказ: “Шлях, які я прайшоў - гэта цярністы шлях. Адно скажу – быў у Сталінградзе. Прайшоў з баямі ад Паўночнага Данца да Дняпра, пабываў (тут, мабыць, цэнзар замазаў назвы нейкіх гарадоў).

### *Надзея*

Лісты, якія ў маіх руках, напісаныя алоўкам. Але наступны (за першым, ад 25. 01. 44-га) датавана 20 сакавіком 44-га года, чарнілам, ліст машынапіснага памеру напісаны з двух старонках. Тут ужо радасць ад узаемнай звесткі. Натхненне ад пераломy ў вайне.

“Я лічыў вас усіх пахаванымі, так, як бачна, і вы мяне, Але відаць на зло нашым лютым ворагам мы ўсе жывыя. Што тычыцца здароўя, то яно ва ўсіх рознае”.

Адрасант не губляе надзею на радасную сустрэчу і далейшае жыццё. Супакойвае сястру, каб не хвалявалася за тыя матэрыяльныя каштоўнасці, якія страціла, бо галоўная каштоўнасць – дзеці, Вася (муж), мама і я”.

І далей: “Ты напісала, што была пад расстрэлам, нават, стала сівой, я гэтаму не здзіўляюся. Я бачыў асабістымі вачыма дзікія зверствы, у мяне загаралася сэрца злобай помсты. А за цябе я буду помсціць удвая, утрая, у шмат разоў” І г. д. “У байцоў адно жаданне – хутчэй уперад, на захад, да Берліна, а там уж пакажам ім “кузькіну маць”, урэжам усе апетыты захопліваць чужыя землі і здзекавацца над безабароннымі жанчынамі і дзецьмі.

Цікава, што пра сябе кажа: “Здароўе маё добрае, у 43-ім усё лета адхварэў малярыяй, ляжаў у госпітале… Трэба хутчэй дабіваць ворага…” Увесь ліст – патрыятычнае пачуццё.

”Оля, асноўная думка ў вас усіх павінна быць – памагаць Чырвонай арміі працай у тыле. А мы вас не падвядзем на фронце… адпомсцім ворагу, і не як-небудзь, а жорстка… вымесцім усю накопленую злобу.

Ганарыцца, што прыняты у ВКПб, што савецкая армія мае буйныя поспехі на франтах і г. д.

### *Біць навучыліся*

Ліст ад 01.04. 44-га г. маленькі, алоўкавы. “Гонім ворага… Адступае ў паніцы. Хутка скончыцца вайна… Румыны не ваякі, увесь фронт трымаюць немцы, а біць іх мы ўжо навучыліся. Прытрымліваемся слоў Горкага: “Калі вораг не здаецца, яго трэба знішчыць”.

### *Свае не пакрыўдзяць*

08.04.44г. Гэты ліст праз тыдзень. “…Крочым проста паходным маршам… Ух, гады! Баяцца нас! Мы іх будзем усіх знішчаць”.

Піша пра прадгор’е Карпатаў, што там прыгожа. “Увогуле, як паглядзіш на ўсе абставіны, усю прыроду, усе падзеі, то хочацца жыць. Адчуваю сябе добра, нават, цудоўна. Здароўе добрае. Паесці – што хочаш, выпіць – калі б не работа, то можна без прасыпу…”

Іван узгадвае пляменнікаў (Оліных дзяцей), прыкідвае, што яны значна падраслі – Алег, Ірушка, Аляксандр. І што апошняга Вася (бацька-франтавік, Арціменкоў), не пазнае. Спачувае, што сястры цяжка,. Але “цяпер ты знаходзішся сярод сваіх, а свае людзі ніколі не пакрыўдзяць, пацярпі крыху…” Дадае: “Ты мне пісала, што пасівела, я таксама ад цябе не адстаў”.

### *Скрозь полымя і дым – сонца…*

29.04.44г. віншуе з першамаем. Згадвае 42-43 гады “Гэта свята мы сустрэлі ў полымі, дыме, дзе не было прасвету. У 44-ым усётакі свеціць сонца, прапускае промні надзеі. Ворага разаб’ём, хоць ён вельмі моцна супраціўляецца. Я ўжо пабываў у многіх гарадах паўночнай Букавіны, дзе асабліва спадабаўся горад Чарнаўцы. Гарады заходняй Украіны вельмі добрыя. Спадзяюся хутка быць у Станіслававе.

Іван просіць сястру франтавы адрас мужа Васі (Васіля Яфімавіча Арціменкова) І трывожыцца, што не атрымаў ад яе лістоў.

Вось такія лісты да сястры Вольгі, муж якой таксама на фронце. Ад іх вее суцяшальнай надзеяй на Перамогу. Між радкоў застаецца вайна. А ў радках знешні спакой. Пералічваюцца гарады, дзе “пабываў”, нібы на экскурсіі. Толькі, менавіта ў першым (Сталінград) упамянаецца цярністы шлях. З пісем вынікае шчыры патрыятызм, уменне падтрымліваць родных звесткамі, надзеяй. І ў кожным адчуваецца шчымлівае жаданне чуць родную душу: верыць, радавацца, што жывыя. Вельмі адметныя словы на тую пару: “свае людзі ніколі не пакрыўдзяць…” Вось яна, роднасць,, якая прыдае духоўнай сілы і для агульнай усенароднай справы. Трымацца сваіх!

## “Пабываў”

“Пабываў”… у баявых дзеяннях (чытаю) у складзе 24 стралковай Бердзічэўскай, Самара-Ульянаўскай, двойчы чырвонасцяжнай ордэна Суворава і Багдана Хмяльніцкага жалезнай дывізіі па разгрому нямецкіх войск на франтах Вялікай Айчыннай вайны Савецкага Саюза.

А гэта значыць, што выратаваў і ўкраінскія гарады ад нямецкага палону. Яшчэ не ведаў, што жонка будзе з Украіны, родам з Днепрапятроўска, з Ліпецка – Наталля Іванаўна Ярмоленка. Маладзейшая на 17 гадоў выйдзе за яго замуж у Буда-Кашалёве, бо свайго каханага лётчыка Валодзю не дачакалася з вайны. Наталля па размеркаванні прыедзе працаваць выкладчыцай у лясны тэхнікум (пад кіраўніцтвам франтавіка Васіля Яфімавіча Арціменкова). Там і ён будзе выкладаць геадэзію.

Ужо толькі ў 1961 годзе з’явіцца з сям’ёй у мястэчку Падсвілле Глыбоцкага раёна. Сюды накіруюць жонку Наталлю Іванаўну у якасці навуковага супрацоўніка Дзвінскай лесадаследнай станцыі.

## Ці свае?..

Далёка засталася Вялікая Айчынная вайна. Пасля яе столькі чалавечых страт, таксама жахлівых, падману, таямніц знікнення людзей, раскрыццё злачынстваў і г. д. Выраслі ў постсавецкай прасторы новыя людзі, якія сёння ўжо без патрыятычнага пачуцця, без адчування таго, пра што з крывавай бойні пісаў у лістах сястры салдат Іван: “Свае людзі ніколі не пакрыўдзяць”.

Спынілася, раптам, думкай на тых прыказах Сталіна аб удзячнасці за вызваленне гарадоў ад фашызму. Адзін з іх Харкаў. І чытаю вось сёння ў друку (“Новы час”, 18 красавіка, 2014г., №15, ст.11) такі загаловак: “Харкаў мусіць стаць украінскім Сталінградам”. І далей: “У найбліжэйшы час з Харкава паспрабуюць зрабіць Луганск, Славянск і Краматорск”. Выразны “фашызм у савецкай абгортцы… На мяне напала ўласная радзіма, -- кажа ў інтэрв’ю рускі па паходжанні філосаф Аляксандар Філаненка, - яны хочуць знішчыць Украіну, каб перамагчы ў барацьбе з Амерыкай, а мяне барацьба з ёй не цікавіць. І я не хачу жыць у фашысцкай дзяржаве”.

“Свае людзі ніколі не пакрыўдзяць”?

